Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 24 Пятніца, 21 сьнежня 1928 г. м. Вільня. Год I.

# ГРАМАДЗЯНІН

[illegible] ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ

[illegible]ЫДЗЕНЬ

Падпісная цана на 1 месяц 50 грашэй, на 2 месяцы 1 злоты. Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцы[illegible]: Wilno, ul. Zawalna 6, [illegible]

АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ

## Польска-беларускія адносіны.

У польска-беларускіх адносінах у вапошні час наступіла прыметнае пагоршаньне. Гэтага факту ня можа запярэчыць ніводзен бесстаронны наглядчык. Бо таго гвалтоўнага паходу эндэцка-нацыяналістычнае віленскае прэсы проці Т-ва Беларускае Школы і проці Беларускае Хрысьціянскае Дэмакрацыі, а разам з гэтым і наагул проці «беларушчыны» у касьцеле і школе, які распачаўся пасьля зьезду Б.Хр. Д, нарэшце выступленьне Віленскага Арцыбіскупа Мэтрапаліты Ялбжыкоўскага, здаецца, ніхто не залічыць да праяваў палепшаньня польска-беларускіх адносінаў.

У даным выпадку ні Т-ва Бел. Школы, ні Бел, Хр. Дэмакр., з праграмаю і тактыкаю якіх можна згаджацца ці не згаджацца, не бярэцца у вабарону. Аднак-жа ня можам не канстатаваць таго, што ў перакананьні беларускіх народных гушчаў наступіў значны пахіл улева. Гэта выразна ўяўнілася ў забароне ўладамі легальнага Зьезду Т-ва Бел. Школы і асабліва у рэзалюцыях Зьезду Бел. Хр. Д., якія і паслужылі прычынаю нападаў з боку некаторых польскіх колаў.

Але ў кожным разе гэтага яшчэ не даволі, каб цэлую партыю, якая да гэтае пары лічылася найбольш лёяльнай і зьвязанай з польскаю дзяржаўнасьцю дзякуючы супольнай веры, адразу абвінаваціць у бальшавізьме, як гэта зрабіў у сваім загадзе для падуладнага каталіцкага духавенства Віленскае эпархіі Арцыбіскуп Ялбжыкоўскі. Праўда, што некаторыя з рэзалюцыяў зьезду цалком узяты з праграмаў сац. і іншых польскіх радыкальных партыяў. Аднак-жа да гэтае пары нікому і ў галаву ня прыходзіла абвінавачываць апошнія у бальшавізьме, ці прадаваць іх анафеме з амбону касьцёла. А ўсім добра ведама, якія можа мець вынікі гэткі суровы асуд Б. Хр. Д. з боку афіцыяльных польскіх колаў, прыняўшы пад увагу з аднаго боку вялікі уплыў на прыхаджанаў каталіцкага духавенства, а з другога пэўныя адносіны мяйсцовае адміністрацыі да «бальшавіцкіх» элемэнтаў сярод беларусаў.

Гэтакі спосаб рэагаваньня на радыкалізм беларускіх вясковых гушчаў ня можа прычыніцца да санацыі польска-беларускіх адносінаў, да якой, як ведама, імкнецца цяперашні ўрад. Нарэшце, ці у інтарэсе і самой Польшчы раздзьмухіваць на ўвесь сьвет зусім малапаважныя факты да разьмераў «антыдзяр-

жаўных рухаў» сярод нацыянальных меншасьцяў. Гэта толькі лішняя вада на нямецка—бальшавіцкі млын. Бо адкрываючы амаль што кожны дзень новыя «бальшавіцкія» арганізацыі на Усходніх Крэсах, на Валыні, у Галіцыі, далучыўшы да гэтага нямецкі Volksbund, антыдзяржаўную работу камуністаў, —гэтым толькі надрываецца даверра да сталасьці Польскае Дзяржавы з боку заграні̇чных фінансава - палітычных колаў, сярод якіх на падставе ўласных польскіх крыніцаў выробляецца ўражаньне, быццам Польшча нейкі вулькан, які можа выбухнуць у кожную хвілю.

# Аб чым пішуць беларускія газэты.

„Бел. Крыніца" (№ 57)зьмяшчае адозву да Беларусаў Цэнтральнага камітэту Бел. Хр. Дэм., у якой між іншым піша:

„Зьезд Бел. Хр. Дэмакр. 25.XI.28 г., пераглядаючы праграму, ніякіх зьменаў адносна рэлігійных пытаньняў ня ўводзіў, а знача праграма Б. Хр. Д, у працягу доўгага часу была Арцыбіскупам прызнана, як не супярэчная з духам каталіцкага касьцёла, ня гледзячы на пункты аб зямлі бяз выкупу, а так-жа аб магчымасьці аддзяленьня касьцёла ад дзяржавы."

У канцы адозвы Цэнгр. К-т піша, што выслаў адпаведны мэмар'ял у Апостальскую сталіцу у Рыме з просьбай скасаваць несправядлівы загад Віленскага Арцыбіскупа.

Зьмест гэтае тэлеграмы наступны:

„Дня 10.XII.1928 г. Віленскі Арцыбіскуп Яблжыкоўскі выдаў адозву, забараняю чую верным каталіком належаць да партыі Беларускай Хр. Дэм., закідаючы ей рэлігійны індыфэрэнтызм і бальшавізм. Сябры Цэнтральнага Камітэту Бел. Хр. Дэм., каталіцкага веравызнаньня, не пачуваючыся да віны ў вышэй паданых закідах, а будучы вернамі вызнаўцамі Каталіцкага Касьцёла—знаходзяць у гэтай адозве адно матывы палітычныя—просяць яго Сьвятасьці разглядзець гэтую справу па атрыманьні адпаведнага мэмар'ялу, які хутка будзе зложаны Нунцыятуры ў Варшаве, і скасаваць загад Арцыбіскупа."

Орган радыкалаў „Да працы"№ 4 (нумары 1, 2 і 3 былі сканфіскаваны) ў артыкуле „Да змаганьня з голадам", між іншым піша:

„Дзе ратунак, дзе выхад?—У гэтым няшчасьці мы павінны, не спадзяючыся на другіх, разлічваць толькі на самых сябе! Павінны арганізаваць сваю самапомач, павінны арганізаваць свае Галодныя Камітэты (Камітэты для помачы галодным), якія павінны знайсьці спосабы і срэдзтвы, каб прыйсьці на спатканьне галодным сялянам. Заходняя Беларусь мусіць пакрыцца сеткаю камітэтаў на чале з Цэнтральным у Вільні, — далей акружныя — ў паветах і раёновыя ў гмінах. Акцыя камітэтаў мусіць вясьцціся, як у краі так і заграніцай, як Амэрыка і інш.

Камітэты мусяць у краі дабіцца:

1) Дзяржаўнай помачы для галодных, як хлеб, корм, інвэнтар, насеньне і інш.

2) Дзяржаўных беззвартных пазыкаў для працоўных сялян.

3) Звальненьня галодных сялян ад падаткаў і пералажэньня іх на маючыя клясы.

4) Скасаваньня ўсіх даўгоў і залегласьцяў у розных дзяржаўных банках.

Дык да працы, браты!"

А якія-ж гэта ёсьць у нас „непрацоўныя" сяляне? Няўжо і ў нас ня можна абыйсьціся без дзяльбы на „працоўных" і „кулакоў?"

Да гэткага агульнага бедзтва, здаецца, можна было-бы падыйсьці без клясавае меркі...

# Палітычная хроніка

## З ПОЛЬШЧЫ

### Узрост насяленьня Польшчы.

У працягу апошніх 8 гадоў насяленьне Польшчы ўзрасло на 4 міл. чалавек, ці на 15,2 прац. Найбольшы прырост прыпадае на Ўсходнія ваяводзтвы (19,2 прац.) затым Цэнтральныя (14,3 проц.), Заходнія (13,1 проц.) і нарэшце Паўдзённыя 11,6 проц).

### Безрабоцьце ў Польшчы.

Паводле даных дзяржаўных урадаў пасрэдніцтва працы, у пачатку бягучага месяца безработных было зарэгістравана 97,414 чал., у гэтым ліку 26,307 жанчын.

У параўнаньні з папярэднім тыднем лік безработных павялічаўся на 5,049 чалавек.

# З ЗАГРАНІЦЫ.

## Сэсія Рады Лігі Народаў.

У мінулую суботу закончылася чарговая сэсія Рады Лігі Народаў у паўдзённым Швайцарскім мястэчку Лугане. У сэсіі прымалі удзел міністры заграничных справаў Чэмбэрлен, Брыян, Штрэзэман, Залескі і ін. На дзенным парадку стаялі: польска-літоўская спрэчка, пытаньне аб эвакуацыі Прырэйнскае вобласьці, становішча нямецкае меншасьці ў В. Шлёнску і г. д. Ні па воднаму з гэтых пытаньняў ня было вынесена канкрэтнае пастановы. Пры абгаворы апошняга пытаньня дайшло да паважнае спрэчкі між мін. Залескім і Штрэзэманам. Калі мін. Залескі ў сваёй прамове заявіў, што дзеяльнасьць Нямецкае арганізацыі ў В. Шлёнску Volksbund паграажае на‘т міру, Штрэзэман стукнуў кулаком па стале і крыкнуў: „нячувана!" У часе сэсіі Штрэзэман некалькі разоў прыватна канфэраваў з Брыянам і Чэмбэрленам бяз ніякіх вынікаў.

## Дэклярацыя трох міністраў.

У выніку канфэрэнцыі ў Лугане была апублікавана наступная дэклярацыя, падпісаная міністрамі Чэмбэрленам, Брыянам і Штрэзэманам: „Сэсія Рады Лігі Народаў у Лугане дала нам магчымасьць узнавіць перарваныя некалькі часу назад асабістыя гутаркі і прыступіць да абмену думкамі, што зьявілася вельмі карысным для ўсіх старон. Адбыўшыяся гутаркі мацней, чым калі-небудзь раней, пераканалі нас у тым, што палітыка згоды і збліжэньня спасобна найбольш забясьпечыць мір сярод дзяржаваў. Гэтай палітыцы мы застаёмся верныя і на будучыню. Мы гатовы зрабіць усё як магчыма хутчэй і аканчальна ухіліць усе перашкоды, зьвязаныя з ліквідацыяй ваенных ранаў і каб у атмасфэры ўзаемнага даверра забясьпечыць роскві́т нашых дзяржаваў".

## Вайна між Балівіяй і Парагваем.

У пачатку гэтага тесяца выбухла вайна між рэспублікамі Паўдзённае Амэрыкі Балівіяй і Парагваем. А Ліга Народаў, на якую пакладаюць надзеі, як на адзіную гварантыю міру, п‘ат і пальцам ня рушыць, каб устрымаць крывіпраліцьце між малымі дзяржавамі.

## Мусаліні падрыхтоўвае Італію да вайны.

На адным з апошніх паседжаньняў італьянскага парляманту Мусаліні выступіў з вялікаю прамоваю аб міжнароднай сытуацыі. Між іншым, ён сказаў: увесь сьвет у большай ці меншай меры інтэнсыўна узбраяецца. Газэты кожны дзень паведамляюць аб спуску на ваду новых падводных лодак, крэйсэраў і г. д. Л к гарматаў і штыкоў узрастае з кожным днём. Ня трэба ашуківаць сябе ілюзыямі адносна палітычнага становішча Эўропы. Калі падходзіць бура, заўсёды гавораць аб міру і цішы. Мы ня хочам нарушаць эўрапэйскае раўнавагі, але павінны быць гатовымі, ніхто з вас ня зьдзівіцца, калі я патрэбую ад італьянскага народу напружаньня большых высілкаў, чым да гэтае пары, каб давясьці да належнае вышыні нашы марскія, сухапутныя і паветраныя сілы.

## Рэвалюцыя ў Афганістане.

У Афганістане ўжо каля месяца назад выбухла рэвалюцыя. Кароль і каралева, якія нядаўна толькі вярнуліся з паездкі па Эўропе, схаваліся ў адным з фартоў. Частка войска перайшла на бок рэвалюцыянераў. У Кабуле і Ялабадзэ ідуць баі. Паўстанцы захапілі два фарты. Тэлеграфная сувязь з Кабулам парвана.

## Антырэлігійны тэатр і унівэрсытэт у Маскве.

У Маскве адкрыўся ў апошнія дні пры саюзе „бязбожнікаў" спэцыяльны тэатр пад кіраўніцтвам нейкага Брайлоўскага. У рэпэртуар гэтага тэатру уваходзяць п‘есы выключна антырэлігійнага характару.

Адначасна адбылося ў Маскве пры саюзе камсамолу ўрачыстае адкрыцьцё „антырэлігійнага ўнівэрсытэту", у якім будуць чытацца адчыты аб атэізме.

Як відаць, перад канцом бальшавікі трацяць розум...

## Антысавецкі тэрор.

Савецкія газэты падаюць аб цэлым тэроры замардаваньня сялянааі камуністаў, сельскіх карэспандэнтаў і савецкіх урадаўцаў на правінцыі. Антысавецкі тэрор на правінцыі прынімае ўсё большыя разьмеры.

## Аднак-жа ўзбраяюцца.

Нямецкая газ. „Ring" падае цікавыя даныя аб узбраеньні СССР. Паводле гэтых даных, у 1928 г. было сфармавана 2 новыя дывізіі, 4 паветраныя эскадры, 8 авіяцыйных рот і на 40 проц. узмоцнена абслуга танкаў. Створаны новыя атрады газавай абароны і адкрыты інстытут ваеннай хіміі. Паводле афіцыяльных даных, чырвоная армія налічае ў сваіх радох 562,000 чал., а ўзапраўды ў ёй 1,502,000 чал.

## Варожыя дэманстрацыі проці Гувэра.

Нававыбраны прэзыдэнт Злучаных Штатаў Гувэр выехаў на ваенным браняносцы у Паўдзённую Амэрыку. У Аргэнтыне перад прыездам яго была адкрыта змова на яго жыцьцё. У Буэнос-Айрэсе для аховы асобы Гувэра было мабілізавана 1,500 паліцэйскіх. Аднак-жа, на вакзале яму была зроблена варожая дэманстрацыя. Гэтак сама і ў Мантэвідэо была зроблена варожая дэманстрацыя.

## Хвароба англійскага караля.

Ужо больш месяцу, як захварэў ад прастуды англійскі кароль Георг V. Былі мамэнты, што жыцьцю пагражала вялікая небясьпека. Але ўжо наступіў крызіс у хваробе і кароль паволі папраўляецца.

## Арышт б. францускага міністра.

Ва Францыі арыштаваны за розныя біржавыя афэры ў часе вайны бышы міністар скарбу Клодз. У вапошні час ён быў сэнатарам. Каб унікнуць судовай кары, Клодз падае сябе за вар'ята. Дзеля таго, што пасьля аканчаньня вайны Клодз быў галоўным тварцом скарбавага боку (кантрыбуцыі немцаў) Вэрсальскага трактату, нямецкая прэса падняла пытаньне аб пераглядзе Вэрсальскага трактату дзеля таго, што пры ўкладаньні яго браў чынны ўдзел чалавек, каторы сам цяпер прызнаецца ў тым, што быў вар'ятам. Зусім лёгічна.

## Нязьведаны край.

З Масквы паведамляюць, што ў Паўдзённым Сібіру між ракамі Хіталыгадз і Кандос адкрыта 9 вёсак, аб існаваньні якіх ніхто дагэтуль ня ведаў. Насяленьне гэтых вёсак складаецца з старавераў, якія гутараць на зьмешанай расейска-татарскай мове. Абраз жыцьця прыпамінае XVII стогодзьдзе ў Расеі. Сяляне зусім ня ведалі аб існаваньні ў Расеі Савецкае ўлады (цяпер шчасьце іх кончылася), як роўным чынам аб усіх зьменах у Расеі ў працягу 2 стагодзьдзяў. З Масквы высылаецца спэцыяльная экспэдыцыя.

## Фатальны выпадак.

Вялікі акіянскі параход „Цэльтік" параходнай лініі „Целіт Стар", які нядаўна уратаваў некалькі пасажыраў з патануўшага параходу „Вэстрыс" каля берагоў Паўдзённае Амэрыкі, сам пайшоў на скалу каля Паўдзённае Ірляндыі і затануў. 225 чалавек пасажыраў, у тым ліку 27 з параходу „Вэстрыс" уратованы.

# Тутэйшая хроніка.

**— Адклад выплаты рольных пазыкаў.** Банк Гасп. Кр. прызнаў пэўныя палёгкі ў справе выплаты пасеўных і „Klęskowych" пазыкаў для Усх. ваяводзтваў, а ласьне адлажыў гэтыя крэдыты:

На 3 месяцы з платаю толькі процантаў для паветаў — Браслаўскага, Дзісьненскага, Маладэчанскага, Пастаўскага і Сьвянцянскага;

2) На 3 мес. з уплатаю процантаў і 20 проц. капіталу для паветаў: Ашмянскага, Віленскага і Віленска-Троцкага.

Затым пастаноўлена адлажыць выплату гнаёвых вэксалёў (Koopralnej) рольнікаў з паветаў: Браслаўскага, Дзісьненскага, Пастаўскага, Сьвянцянскага і Маладэчанскага з тым, што 1 лютага 1929 г. будзе сплачана 50 проц., а рэшта ў сьнежні 1929 г. Вэксалі рэшты паветаў Віленскага ваяводзтва будуць прадоўжаны да 15 лютага 1929 г.

**— Новы дырэктар Віленскае Бел. Гімназіі.** Як пішуць газэты, на становішча Дырэктара Віл. Бел. Гімназіі Бацькаўскі Камітэт выбраў грам. Міхалевіча, дасюляшняга доўгагадовага вучыцеля гэтае гімназіі.

**— З жыцьця „Прасьветы".** У мінулым тыдні адбыліся беларускія спэктаклі, наладжаныя аддзеламі „Прасьветы" у Вялейцы і Куранцы.

**— Зьезд Таварыства Беларускае Школы,** як піша „Dziennik Wilenski" не адбыўся дзеля неатрыманьня дазволу ад улады і адложаны на неакрэсьлены тэрмін. Польская газэта піша, што гэта ёсьць паражка г.зв. „лёяльных грамадоўцаў", якія зьбіраліся правясьці санацыю у Таварыстве. Далей піша аб другой „паражцы" санатараў на агульным сходзе Белар. Кааператыўнага Банку, які адбыўся 8 сьнежня і дзе як да ўраду, гэтак і да рэвіз. камісіі, ніхто з „санатараў" не прайшоў. Агульным сходам апанавала група крайніх радыкалаў, на чале з паслом Дварчанінам.

**— Зьезд Бел. Хр. Дэмакрацыі.** 25 лістапада ў Вільні адбыўся зьезд Бел. Хр. Дэмакрацыі, на які зьехалася 72 дэлегаты. На зьезьдзе быў вынесены цэлы шэраг рэзалюцыяў у галіне рэлігіі, асьветы, зямлі, гаспадаркі, самаўрадаў, падаткаў і агульнае палітыкі. Некаторыя з гэтых рэзалюцыяў выклікалі абурэньне з боку польскае прэсы і адпаведныя крокі Віленскага арцыбіскупа Ялбжыкоўскага, які ў спэцыяльным загадзе да падуладнага каталіцкага духавенства абвінавачіў партыю Бел. Хр. Дэм. у „рэлігійным індыфэрэнтызме і бальшавізьме" і забараніў верным каталіком належаць да гэтае партыі і чытаць яе орган „Беларускую Крыніцу". Гэтую анафему каталіцкія ксяндзы павінны былі прачытаць у касьцеле з амбонаў, пасьля набажэнства у нядзелю 16 сьнежня.

У канцы зьезду быў выбраны новы цэнтральны камітэт у наступным складзе: паслы Каруза і Стэповіч, д-р. Гагалінскі, кс. Станкевіч, М. Дварэцкі, Галец, д-р. Жук, Татарыновіч, Шутовіч, Пазьняк і Красоўскі. Да рэвізыйнае камісіі—д-р Грабінскі, кс. Гадлеўскі, Вашковіч і Ушакевіч.

**— З Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.** У нядзелю 9 сьнежня адбылося паседжане Рады Бел. Інстытуту Гасп. і Культ., на якім было пастаноўлена зьмяніць памешканьне ураду, перанесена яно на Завальную

№ 7. Затым была прынята да ведама адмова А. Більдзюкевіча са становішча старшыні Ураду і абгаварываліся справы Вучыцельскай Сэмінарыі і пачатковай беларускай школы ў Максімаўцах.

— **Павялічэньне ліку беларускае інтэлігэнцыі** З Прагі Чэскай прыехаў на Бацькаўшчыну пасьля аканчаньня Праскага Унівэрсытэту інжынер-аграном Клімовіч. У мінуўшым годзе ён езьдзіў ад імя белар. студэнскіх арганізацыяў у Рым на IX Кангрэс Міжнароднае Студэнскае Конфэдэрацыі.

— **Высылка Мамонькі на „Салаўкі.“** Як пішуць польскія газэты, чуткі аб арыштаваньні ў Менску эс-эра Мамонькі быццам падцьвярджаюцца і што ён разам ящчэ з некалькім эс-эрамі з бyўшага Ураду Ластоўскага, застаўся высланым на Салавецкія вастравы...

Гэтага і трэ' было чакаць, бо, прызвычаены да крытыкі (не „самакрытыкі“, што дазваляецца толькі камувістым, ды і то ня ўсім), ён думаў, што на ягонае пляскаваньне языком і скандалы, якія ён позваляў сабе ў Вільні, пазволяць „таварышы“ і ў Менску. Не, братачка! З ваўкамі жыць, як той казаў, трэба і паваўчу выць.

— **Шырокатаровая лінія Новельня —Наваградак.** Каляёвыя улады пастанавілі прыступіць у 1929 г. да замены вузкатаровай чугункі Наваельня-Наваградак на нармальную. У зьвязку з гэтым у першых днях студзеня прыбудзе на лінію спэцыяльная міністэрская камісія, якая разам з Віленскаю Каляёваю Дырэкцыяй прыступіць да уступных працаў.

— **Перамога беларусаў.** На выбарах да Гміннае Рады ў Любчы (у Наваградчыне) беларускі ліст на чале з сэн. Рагуляй атрымаў 9 мейсц, жыды 1 мейсца і палякі 3 мейсцы. Як ведама з газэтаў, мясцовыя ўлады сэн. Рагулю зусім не хацелі дапусьціць да выбараў, але... як і трэба было спадзявацца - чым больш было перашкод, тым больш салідарнасьці сталася сярод выбаршчыкаў.

— **Беларускі Народны Календар на 1929 г.** Вышаў з друку і прадаецца ва ўсіх беларускіх кнігарнях Беларускі Народны Календар — кніжка на 1929 г. Календар мае 110 старонак з багатым сельска-гаспадарчым аддзелам і павяжнейшымі юрыдычнымі парадамі. Галоўны склад у Вільні, Тургельская 22-3. Цана — 1 зл. 50 гр.

— **Беларускі Календар — Кніжка на 1929 г.** Беларускага Выдавецкага Таварыства ў Вільні. Календар зьмяшчае 225 старонак і бязумоўна зьяўляецца найбольшым з усіх беларускіх календароў, якія да гэтай пары выходзілі. Зьмяшчае у сабе шмат цікавых аддзелаў, як напрыклад: літэратурны, гістарычны, культурна — грамадзкі, школьны, гаспадарчы, каапэрацыйны палітычна—адміністрацыйны, мастацкі, юрыдычны, лякарскі, вэтэрынарны і г. д. Кніжка зьяўляецца цэнным падручнікам для кожнага беларуса—селяніна. Сьвятцы друкаваны вірыліцаю і лацінкаю з праваслаўнымі і каталіцкімі сьвятамі паводле новага і старога стылю. Цана — 2 зл. 50 гр. Галоўны склад — Беларуская Кнігарня Беларускага Выдавецкага Таварыства, Вільня, Вострабрамская вул № 1.

— **Канфіскацыі.** Па загаду Гарадзкога Старасты быў сканфіскаваны № 56 „Бел. Крыніцы“ і „Да Працы“ № 6 ад 16 сьнежня.

# Карэспандэнцыі.

## Прыкрае здарэньне.

(Ярэміцкая гм. Стаўпецкі п.).

Шпарка нясецца цягнік.., З вакон вагону відаць пустыя сялянскія палеткі, маленькія хаткі вёсак, гаспадарскія каровы, якія пасуцца каля жалезнай дарогі.

Я сядзеў задуманы. Да мяне падсеў пажылы чалавек, па вопратцы відаць, што селянін. Даведаўшыся, што я з беларускай гімназіі, пачаў са мною гутарку. Як аказалася, чалавек гэты быў сьведамы і яго сын добра мне знаёмы. Гутарка пачалася аб пагодзе, але тэмы хутка мяняліся: то аб школах, то аб самаўрадах. то аб ураджаю і г. д. Між іншым, пачалася гутарка аб гімназіях.

— Эх, дзетка, як кажа прыказка: „З Івана ня будзе пана.“ Што з таго, што ты скончыш гімназію? Пакінеш вёску, забудзешся таго, што цяпер гаворыш: „Іосьці будзіць народ.“ Бацькоў нават сваіх выракаешся.

— Што вы дзядзька? адказаў я, — гэтага ніколі ня будзе...

— Знаю вас такіх. Вось, напрыклад, адзін хлапец скончыў Наваградзкую Беларускую Гімназію. Неяк дастаў ён занятак загадчыка пры папраўцы дарог. І вось у вёсцы Ровінах адцяў г. зн. адрэзаў ½ шнура жыта аднаму гаспадару. Сам мне аб гэтым хваліўся.

Ці-ж ён ня мог пачакаць, пакуль гаспадар сажне жыта? Або, мог-жа ён і бяз гэтага абыйсьціся, але вось, думае, пакажу, што я значу:—не дарма-ж я вучыўся. Вось табе і навучыўся крыўдзіць другіх. Здаецца-ж і беларус.

— Адкуль-жа ён, дзядзька?—спытаўся я?

— З вёскі Ц—стынь, Жухавіцкае гміны.

Я больш нічога ўжо ня пытаўся, хоць мой сусед не пераставаў гаварыць. Мне зрабілася сумна на душы. І ўспомніліся мне словы аднаго беларускага паэта:

Краю мой родны, як вукляты Богам. Колькі ты зносіш нядолі?!

Але лепш нядолю і крыўду зносіць ад чужых, чым ад сваіх,—лягчэй неяк на сэрцы. Ня так цяжка зносіць нядолю ці крыўду ад сваіх нясьведамых і цёмных, чымся ад сваіх сьведамых. Але чалавек з сярэдняй адукацыяй і гэта крыўдзіць свайго браат! Гэта проста немагчыма паверыць. Толькі я асабіста, ведаючы гэтага хлапца, веру і ёсьць перакананы, што гэта праўда. Мы, моладзь, не павінны гэтага рабіць, але наадварот, павінны з усёй сілы змагаюцца з усякаю крыўдай над нясьведамым і сваім чалавекам.

Сапраўды, чалавеку сьведамаму прыкра робіцца ад гэтага, здаецца так звычайнага здарэньня. **Андрэй Сьведамы.**

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Што рабіць у зіму.

З усіх частак году зіма ў нас праходзіць найбольш непрадукцыйна. Чамусьці ўжо ўвайшло ў традыцыю, што зіма, як ноч у сутках, служыць нібы для адпачынку. Прывёз гаспадар дроў з лесу, даў жывёле корму, напаіў і, калі кончана малацьба, на палаткі ці на „рускую“ печку каб „разагрэць косьці“...

Ну, а моладзь вечары праводзіць за картамі ці іншымі пустымі забавамі.

Аб жанчыне мы не гаворым. Для яе заўсёды знойдзецца праца. Яе ня трэба падганяць ці змушаць да працы, праца сама лезе ў рукі, як улета, гэтак і ўзіму.

А між тым і ўзіму ёсьць вельмі шмат неадкладнай і карыснай працы. За граніцаю, на захадзе, зімы амаль што няма, бо ў студзені ўжо пачынаюць араць у полі, аднак селянін не сядзіць, злажыўшы рукі ўзіму, не адпачывае. Хто быў у мінуўшую вайну у нямецкай ці аўстрыйскай няволі, той ў гэтым пераканаўся ўласнымі вачыма. Там нідзе няма і „рускае“ печы, скланяючай да „рускае“ лені. Дзеля гэтага там селянін і жыве значна багацей і ляпей, хаця зямлі мае ня больш, чым звычайны падзел у нашага селяніна. Бо калі немец ці галяндзец мае 15-20 дзесяцін, дык гэта ўжо лічыцца абшарнікам, які жыве лепш, чым нашыя абшарнікі з 10-15 валокамі.

А сакрэт толькі ў тым, што там гаспадар круглы год працуе і працуе ўмела.

Пара і нам узяцца за розум ды за працу, кінуўшы узіму „рускую“ печку і „рускую“ лень, калі хочам падняць свой дабрабыт і прыблізіцца да культурна-гаспадарчае роўні заходняга селяніна. Праца заўсёды знойдзецца і аплаціцца.

Ня трэба адкладаць да вясны, калі і без таго будзе шмат працы, тое, што можна зрабіць узіму. Трудна на‘т і пералічыць тае абаймы працы, якую можна знайсьці ў гаспадарцы ўзіму. Мы не гаворым аб бягучай працы, як дагляд за жывёлаю, малацьба, прывоз дроў з лесу, сена з сенажаці, чым часта і канчаюцца звычайныя абавязкі нашага маладбалага селяніна.

Калі яшчэ не агледжаны хлеў для жывёлы, дык з гэтым трэба пакончыць да сільных маразоў. У цёплым і чыстым хляве жывёла патрабуе менш корму. Не паіць статку халоднай вадою. Выпушчаць яго пагуляць на сьвежае паветра, Дбаць аб пасьцілцы, выбіраючы гной і складаючы яго ў кучы. Пры добрым, умелым і ахвотным даглядзе за жывёлаю будзе і большая карысьць ад яе.

Даглядзець пчолы на зіму і сады. Затым, ня трэба адкладаць і з баронамі, павозкамі, граблямі... Ачысьціць і змазаць плуг, каб не ржавеў. Прыдбаць калоў для платоў. Напілаваць і злажыць дроў на лета.

А калі знойдзецца вольны час пасьля бягучых гаспадарчых абавязкаў, з якімі лёгка можа справіцца адзін чалавек, дык трэба парупіцца і аб заработку, як дома, гэтак і на старане. Калі ёсьць матэр'ял, заняцца бандарствам, вырабам начовак, ложак, шуфляў для сьнегу, саней, кол і іншых гаспадарчых і дамовых прыладаў.

У вольны час, заместа гульні ў карты, пачытаць ці паслухаць артыкулы аб земляробстве. Перад вясною яшчэ абмяркаваць дзе што і як сеяць, якія гнаі выкарыстаць.

Паслаць каго-небудзь на рожныя курсы, якія адбываюцца найбольш бясплатныя пры кулках ральнічых і іншых гаспадарчых арганізацыях, як меліорацыйныя, пчалаводзтва, льнаводзтва, жывёлагадоўлі, земляробства, каапэрацыі, глінабітнае будоўлі і іншыя.

Хто ня мае ўласнае веды ці досьледаў, можа гэта атрымаць дарма ад іншых. Толькі была-б ахвота. А карысьць ад гэтага можа быць вялізарная. Хто не змарнуе ды не прасьпіць узіму, таму лепш прыдзецца працаваць і ўвясну і летам, бо ня трэба будзе клапаціцца ні аб баране, ні аб возе, ні аб коле, калі ўсё ў належным парадку.

Без працы нішто не даецца дарма. А хто працуе, той заўсёды будзе штось мець.

### Час падумаць аб штучных гнаёх.

Пакуль ёсьць вольны час, не пашкодзіць загадзя падумаць аб штучных гнаёх. Ляпей цяпер паволі абмяркаваць, дзе і якія штучныя гнаі застасаваць і ў якой колькасьці і адкуль атрымаць, бо калі чакаць да вясны, дык можна і не дастаць.

Ужо цяпер, парадзіўшыся з дасьведчанымі асобамі, трэба уплянаваць, куды пойдуць якія штучныя гнаі. Напамінаем, што агародніна, як буракі, морква, бручка,—бяз штучных гнаёў не дадуць добрага ўраджаю. Тут патрэбны будуць азотныя гнаі — салетра, нітрафос, ці азотняк. Акрамя таго, названыя расьліны патрабуюць шмат паташу.

Увясну найбольш адпаведным гноем будзе паташавая соль — 2 — 3 мяшкі па 1 гэктар, для глебы угноенай з восені.

У нас звычайна лічаць, што пасьля бульбы глеба не патрабуе ніякіх гнаёў. Аднак-жа гэта абмылковы пагляд, бо бульба выядае з зямлі шмат корму (азоту і паташу), мала пакідаючы для наступнае пасьля сябе расьліны. Праўда, што глеба пасьля бульбы найлепшая, аднак-жа дадзены штучны гной пад новы пасеў заўсёды аплаціцца.

Пад авёс пасьля бульбы найлепей надаецца азотны гной, каля 70-100 кілегр. на 1 гэктар. Пад ячмень пасьля бульбы добра даць усіх гнаёў: азотных 70-100 кіл., паташавай солі — 100-150 кіл.

Наагул, пад авёс трэба даць азотныя гнаі. Пад лубін на лёгкіх грунтах і на зялёны гной патрэбны каініт і паташавая соль. Ня трэба толькі забываць, што азотныя гнаі ніколі ня можна мяшаць з хлеўным гноем, бо у такім выпадку яны прынясуць шкоду замест карысьці.

## Ці варта пасьвіць на азіміне ўвосень.

На добра ўгноенай глебе раньняе жыта да зімы вырастае вялікім і некаторыя гаспадары баяцца, што яно узіму пад сьнегам можа сапрэць і дзеля гэтага выпушчаюць жывёлу на азіміну. Асабліва гэта можа здарацца ў бягучую восень, дзякуючы позьняй зіме і цёплай пагодзе. Але гэта не адпаведны спосаб ратаваньня азіміны, бо статак можа адну азіміну выцягнуць з зямлі з карэньнямі і яна пры пазьнейшых маразох вымерзьне, а другую павытоптывае і ў гэтых мейсцах будзе зьбірацца вада якая замерзьне і азіміна пад лёдам вымакае задыхаецца.

Найлепш вялікую рунь пакінуць у супакоі і толькі ў сьнежную зіму сачыць за тым, каб паверхяя сьнегу не замерзала і збожжа пад ім ня прэла. Калі сьнег на паверхні замерзьне, тады раіцца прагнаць па ім некалькі разоў коняў, каб яны разагналі сваімі капытамі ледзяную скарупу Праз праломаныя аддушыны будзе выходзіць на паверх цяпло з-пад нізу і пранікаць да сярэдзіны мароз, што ўхіліць небясьпеку выправаньня.

## Лубін пад бульбу.

Лубін пад бульбу не раіцца заворваць на зіму. Досьледы паказалі, што лубін, заворваць увясну пры саджаньні бульбы пад плуг часта даваў найлепшыя вынікі.

Асабліва гэта адносіцца да пяшчаных грунтаў. Пакінуты на зіму, лубін затрымлівае сьнег, пад якім зямля часта застаецца незамерзлаю. Акрамя таго, лубін перашкаджае зьдзьмуханьню сьнегу ветрам і гэткім чынам на полі застаецца больш вільгаці.

Бульба пасьля лубіну на пяшчаных грунтах часта дае лепшыя ўраджаі, чым пасьля гною. Яшчэ ляпей, калі пасьля лубіну глебу крыху ўгнаіць. Той тут патрэбны больш для хутчэйшага прагнаеньня лубіну.

## Дагляд за парасятамі.

Пры гадоўлі сьвіней, складаючых галоўную падмогу ў нашай гаспадарцы, больш залежыць ад умелага дагляду за імі, чым ад самае пароды. Зусім зразумела, што клапатлівы дагляд за сьвіньнямі павінен распачынацца з парасятаў.

На падставе досьледаў устаноўлена, што парасяты будуць тым лепшыя, чым больш малочная будзе матка, каторая іх корміць. Дзеля гэтага, калі ўяўніца, што матка пры першых парасятах мае мала малака, ня трэба яе больш ужываць для расплоду.

Пры ссаньні найсільнейшыя парасяты карыстаюцца найбольшымі цыцкамі, якія даюць найбольш малака. Слабейшыя парасяты змушаны карыстацца менш малочнымі цыцкамі і дзякуючы гэтаму галадаюць і адстаюць у разьвіцьці.

Парасяты, якія пачынаюць худзець з першых дзён пасьля нараджэньня, мала прыбываюць у вазе і гадоўля іх не аплачваецца. Акрамя таго, такія парасяты лёгка папападаюць розным хваробам і распаўсюджваюць яе сярод здаровых парасятаў. Дзеля гэтага кволых парасятаў ляпей ўхіліць зараз-жа пасьля нараджэньня.

Усякія хваробы малочных залозаў у сьвіні, асабліва хваробы з гарачкаю, некарысна ўплываюць на разьвіцьцё парасятаў. У такіх выпадках значная частка парасятаў гіне, а тыя, што застаюцца, бываюць худыя і слабыя.

Гэтак сама дрэчна гадуюцца парасяты малаком іншае жывёлы. Такія парасяты лягчэй падлягаюць розным хваробам, чым тыя, якія кормяцца малаком сваей маткі.

Нарэшце заўважана, што тыя сьвіньні, якія трымаюцца ў хляве, менш даюць малака, чым тыя, якіх выпушчаюць на выган ці на двор. Парасяты ад гэтакіх сьвіней хутчэй растуць, але затое пазьней пасьпяваюць у плоцьлівым сэнсе. Таксама і сьвіньня, якую трымаюць у хляве, пачынае пазьней гукаць чым тая, якую трымаюць у хляве.

## Як абараніць пладовыя дрэвы ад зайцоў?

Спосабоў абароны пладовых дрэваў ад зайцоў ёсьць шмат. Між іншым, раіцца аб-

варачваць спэцыяльна зробленымі для гэ тага матамі з высокага чароту. Такія маты могуць трымацца некалькі гадоў. Затым раіцца акручваць пні спэцыяльнымі бандажамі з старых нягодных мяшкоў. Як маты, так і бандажы увясну зьнімаюцца і перахоўваюцца на наступную зіму.

Яшчэ раіцца гэткі спосаб: 3 часткі тлустасьці і частку смалы растапіць на лёгкім вагні і пакуль яшчэ масьць цёплая, вымазаць ёю пры помачы шчоткі пень дрэва. Вымазаных гэткаю смазкаю дрэваў зайцы ня грызуць. Даволі адзін раз вымазаць на усю зіму.

### Выбар пеўня для расплоду.

Кожная гаспадыня ў сваім жыцьці заўважыла, што не заўсёды з добрых на пагляд яек выходзяць курчаты: бывае шмат баўтуноў. Гэта залежыць ад розных прычынаў.

Па-першае ад таго, што ў яйках, якія перавозіліся па чыгунцы ці на падводзе, ад садрыганьня зародак уміраe. Затым ад таго, што курыца — квахтун часта ўстае з гнязда з яйкамі, слаба саграе і яйкі застуджаюцца. Але шмат залежыць і ад пеўня. Калі на аднаго пеўня прыходзіцца шмат курэй, дык можа быць шмат нягодных яек. Акрамя таго, певень павінен быць сільны і здаровы. Толькі такі певень надаецца для расплоду. Здаровага пеўня можна пазнаць па яго вонкаваму выгляду і пяяньню. Калі певень выглядае вясёлым, жвавым, рослым, з чырвоным гребянем і голасна пяе на ўсю вёску, дык не шкада гэткаму пеўню даць больш ячменю і трымаць для расплоду. Яшчэ лепей, калі ён будзе паходзіць ад курыцы, якая нясе шмат яек. Гэткі певень апраўдае сябе.

### Як пячы хлеб з прарослага збожжа?

З праросшага збожжа хлеб выходзіць ня добры, бо ня ўсякая гаспадыня ведае, як у гэткім выпадку выпякаць хлеб. Калі замесіцца цеста з прарослага збожжа, дык калі яно кісьне, на паверхні вытвараецца пена, якая перашкаджае хлебу добра выпячыся. Гэтую шумавіну трэба ў часе квасьненьня цеста час-ад-часу зьбіраць лыжкаю, пакуль ня спыніцца вытвараньне. Найлепш замясіць рана, а пячы на другі, каб магла выйсьці на паверх уся пена.

### Як узіму перахоўваць плады?

Для даўжэйшага перахоўваньня трэба выбіраць плады — яблыкі і грушы — здаровыя ня зьбітыя і бяз плямаў. Ня можна абціраць, бо сьціраецца на паверхні васковая павалочка, якая захоўвае ад гніцьця і засыханьня.

Найбольш можна перахаваць плады ў нізкай тэмпэратуры (2°-4°), у мейсцах ня надта вільготных і сухіх. У вільготных мейсцах яны будуць гніць, а ў сухіх дасыхаць. Ня можна трымаць плады ў такіх мейсцах, дзе чуваць запах газы, цыбулі, квашанай капусты, або чаго іншага сьмярдзючага, бо тады і плады набіраюць гэтага самага паху.

Вельмі добра укладаць іх на палічках, прычым яблыкі павінны быць павернуты хвосьцікам уніз, а грушы наадварот, праз некалькі тыдняў трэба перагледзець усе плады і адабраць згніўшыя ці тыя, што пачынаюць псавацца. Раіцца яблыкі трымаць абвернутымі ў паперкі, або у скрынках з сухім торфам ці стружкамі.

## Лякарска — вэтэрынарны куток.

### Уплыў курэньня на здароўе чалавека.

Дзеля шырокага распаўсюджаньня прывычкі курэньня ня ўсе уяўляюць сабе тую шкоду, якую прычыняе курэньне арганізму чалавека. На падставе навучных дасьледаў сцьверджана, што дым тытуню належыць да катэгорыі атруты надта шкадлівае для арганізму.

У склад гэтага дыму уваходзяць, між іншым, амоняк, $SH_2$, формальдэгід, цыанавадародная кіслата, вугальны газ (газ чаду) і нікатын. Нікатын уваходзіць да усіх гатункаў тытуню ў колькасьці ад 0,4%-да 3, 9%. Гэтак званыя „безнікатынавыя вырабы“ маюць нікатын, хаця можа ў меншай колькасьці,

З усіх гэтых складовых частак дыму найбольш шкадлівым зьяўляецца нікатын, затым цыаніставадародная кіслата і вугальны газ, на шчасьце дзьве апошнія ўваходзяць у нязначным ліку,

Праявы атруты дымам тытуню найлепш прыметны ў пачатку курэньня, пакуль яшчэ арганізм чалавека не атручаны, гэта—аслабленьне сэрцабіеньня, галавакружэньне, рвоты, удушлівасьць і г. д. Праўда, гэта атрута ня бывае ў такой вострай форме, як пры атруце больш сільнымі атрутамі, аднак-жа хоць паволі, але стала бурыць арганізм чалавека. Выклікае тыя-ж праявы, як і іншыя наркатычныя атруты, як морфі, опіюм і інш., ласьне: у пачатку уздым, затым наступае упадак сілы, дэпрэсія, што змушае да новага курэньня, новага ўпушчаньня атруты да арганізму.

Амаль няма у арганізьме ніводнае функцыі, на якую-бы дым тытуню не рабіў свайго шкадлівага ўплыву. Пералічым галаўнейшыя з іх: удушлівасьць, аслабленьне сэрцабіеньня, растройства ў траўленьні памяці, слуху, зроку, павохнасьці, бяссоньніпа, аслабленьне плоцьлівых функцыяў у мужчынаў і ненармальнасьці мэнструацыі ў жанчын. Распаўсюджаная хвароба, гэтак званая склероз начыняў, які выклікае ненармальны

працэс крывіносных начыняў, гэтак сама мае сваім пачаткам курэньне.

Зусім зразумела, што ня ў кожнага курыльшчыка усе гэтыя шкадлівыя праявы прыходзяць разам. Усё залежыць ад вытрываласьці і адпорнасьці арганізму: у аднаго тыя ці іншыя праявы бываюць сільнейшыя, у другога слабейшыя. Але ў рэзультаце ўсе яны прыводзяць да асьлабленьня арганізму, які лягчэй паддаецца іншым хваробам.

Асабліва шкадліва ўплывае курэньне на малады арганізм дзяцей.

Тут указаная адпорнасьць арганізму толькі фармуецца і атрута нікатынам спатыкае толькі слабую нявыробленую абарону. Дзеці, якія кураць, значна адстаюць у сваім фізычным разьвіцьці ад дзяцей някурачых. Яны бываюць меншыя ўзростам, са слабейшаю груднною клеткаю, меншай вагі і г. д. Яны менш здольныя да навукі і затрыманьня на адной рэчы.

Маючы на ўвазе усе гэтыя шкадлівыя для здароўя праявы курэньня тытуню, не гаворачы аб матэр'яльных стратах, грамадзянства павінна нароўні з барацьбою з алькагалізмам паставіць на першы плян і барацьбу з курэньнем. Асабліва трэба зварачваць увагу на дзяцей, пакуль яны яшчэ не уцягнуліся. І трэба дзеяць ня страхам, а вутлумачэньнем шкадлівасьці курэньня.

### Вопухаль паднябеньня ў коняў.

Охалань ці вопухаль паднябеньня ў коняў зьяўляецца часта дзякуючы корму коняў коратка парэзанаю сечкаю, якую коні слаба жуюць. Яна раніць яму паднябеньне, пасьля чаго наступае запаленьне і конь ня можа есьці.

Першым ратункам у гэтым выпадку зьяўляецца даваньне каню мягкага корму, як мягкае сена, буракі, пойла і інш. Сечку можна даваць толькі пасьля акапчальнага выздараўленьня і то доўга парэзанай (каля 2 сантымэтраў даўжыні).

Практываць охалань шылам ці пьявкам забараняецца. Гэтым барбарскім способом можна толькі заразіць кроў і згубіць каня. Калі няма паблізасьці вэтэрынарнага доктара ці фэльчара, дык рэйшпа прамываць часьць каня расьцечаю крэаліну ў вадзе (1-2 лыжкі на літр вады) пры помачы гумовага шпрыца. Гэтае прамываньне рабіць у працягу тыдня, праз які вопухаль павінна прайсьці. Затым добра поруч з прамываньнем змазываць у тры дні раз паднябеньне ёдаю у разбаўленым відзе.

### Расколіна на капыце.

Прычынаю гэтага зьяўляецца няумелае падкаваньне, а ласьне: ці слабае спілаваньне краю капыта, ці сільны абрэз падэшвы, ці вузкая падэшва. І. г. д.

Усуненьне расколу залежыць ад добрай падковы, якая павінна быць шырокая, каб край капыта меў падстаўку. Найлепш надаецца гэтак званая „замкнутая падкова," канцы якой скуты жалезнаю перакладзінаю. Між гэткаю падковаю і капытом кладзецца валовая скура таўшчыні каля $^1/_4$ сант. Шчыліну трэба прамыць расьцечаю крэаліну, а затым усю падкову мазаць дзёгцем, і усё углыбленьне запоўніць клочам і прыбіць замкнутую падкову.

## Эміграцыйная хроніка.

### Выезд рольнікаў без „affidawitów" да Канады.

Выезд да Канады рольных работнікаў, ня маючых „affidawitów" пачнецца ў палове лютага 1929 г. Кантыгэнт рольных работнікаў на вясну 1929 г. для Польшчы яшчэ не акрэсьлены Канадзкімі Ўладамі. Аднак можна надзеяцца, што ў зьвязку з добрым ураджаем у Канадзе эміграцыйная квота ня будзе меншая, чым у бягучым годзе. Пакуль дзяржаўныя ўрады пасрэдніцтва працы ня прыймаюць просьбаў на выезд да Канады. Аб адкрыцьці рэгістрацыі Р. U. Р. Р. паведамім у наступных нумарох.

### Новыя аддзелы Эміграцыйнага Ураду.

Эміграцыйны Урад адкрыў між іншым новыя аддзелы з вокругамі дзейнасьці: у Берасьці на Бугу з вокругам дзейнасьці на ваяводзтвы Палескае і Валынскае і Беластоку — на ваяводзтвы: Беластоцкае, Навагрудзкае і Віленскае.

### Век дзяцей, маючых права ехаць да сваіх бацькоў у Злуч. Штатах.

Амэрыканскія ўлады выясьнілі, што дзеці, якія хочуць ехаць да сваіх бацькоў у Злучаных Штатах, могуць атрымаць амэрыканскую візу толькі у тым выпадку, калі ім скончыўся 21 год.

### Пашпарты для сэзановых эмігрантаў.

У зьвязку з распачацьцем павароту сэзановых работнікаў з Нямеччыны, Латвіі і іншых суседніх дзяржаваў, польскія пагранічныя улады атрымалі строгі загад ня ўпушчаць да Польшчы ніводнага работніка, які ня будзе мець пры сабе пашпарту краёвага ці консульскага. За нелегальны пераход граніцы прадугледжана суровая кара. Дзеля гэтага, хто мае сваіх кроўных за граніцаю на сэзонавай працы, якія маюць намер вярнуцца дамоў, павінны паведаміць іх, каб вырабілі сабе пашпарты ў адносных польскіх консульствах, а без пашпартаў і ня думалі пераходзіць граніцу.

# Навука і тэхніка.

## Амэрыканская тэхніка.

Зрабіўшы добры інтэрас на Эўрапэйскай вайне і сьцягнуўшы да сябе золата з усяго сьвету, Злучаныя Штаты Паўночнае Амэрыкі, дзякуючы яшчэ разумнай палітыцы і індывідуальнай працы і свабодзе, дасягнулі нябывалае роўні ў галіне тэхнікі. На'т вайшло ў прыказку, што, „як у Амэрыцы". Ёсьць шмат рэчаў, якія нашаму простаму чалавеку на'т ня можна ахапіць сваім абмежаваным розумам. Усё проста як у казцы.

Калі будуюць дамы, дык у 50-60 паверхаў (драпачы неба). Захацелі не адстаць ад Эўрапэйскіх дзяржаваў у галіне узбраеньня, зразу асыгноўваюць сотні мільёнаў на будову некалькіх дзесяткаў браняносцаў, 2,500 аэраплянаў і г. д. Чаму-ж ня могуць пазволіць сабе на такую драбніцу, калі душацца ад золата і трымаюць у сваёй кішані увесь сьвет.

У канцы 1927 г. там езьдзіла 23,125,000 рожнага тыпу аўтамабіляў, (на 5 чал. 1 аўтамабіль). Цяпер ужо ходзіць каля 28 міл. аўтамабіляў. Канкурэнцыйная вайна між двума аўтамабільнымі „каралямі"-фабрыкантамі Фордам „General Motore C⁰" толькі павялічвае тэмп моторызацыі Амэрыкі.

У мінулым годзе заплачана за новыя аўтамабілі 2,556,7 мільёнаў даляраў, ня лічачы запасных і складовых частак. За рэзіну заплачана 595 мільёнаў. Адзін толькі падатак з карыстаньня аўтамабілямі у мінуўшым годзе складаў 725,5 мільёнаў даляраў.

Аднак аўтамабільныя „каралі" ня трывожацца з таго, што прыходзіцца 1 аўтамабіль на 5 асобаў і што хутка можа напоўніцца унутраны рынак. Яны дапушчаюць, што можа дайсьці да 1 аўтамабіля на 2 асобы. На гэта могуць пазволіць сабе амэрыканскія грамадзяне, бо там няма пралетарыяў. Дзеля гэтага і бальшавікі ня могуць усунуць туды свайго носу. У большасьці фабрыкаў работнікі яны-ж і супольнікі, трымацелі акцыяў.

А амэрыканскія сошы... Ня тое, што нашыя шляхі, па якіх можна праехаць ці прайсьці толькі у пэўныя часткі году. У апошнія гады пачалі будаваць гэтак званыя „паркэтныя" — ці бэтона-асфальтавыя сошы. Ня ў мястах, а усюды, на правінцыі. Амэрыканцы вылічылі, што будова гэткіх сошаў аплачваецца. У той час як на благіх дарогах праезд 1-эй мілі на валох ці конях абходзіўся ў 3 цэнты, на новых „люксусовых" абходзіцца ў 1,6 сэнта.

Цяпер на кожны штат выдаецца па 75 міл. даляраў на будову „паркэтных" сошаў. Апрача таго выпушчана на 919,8 міл. даляраў аблігацыяў на будовы гэтых сошаў. Пакуль вынайшлі гэты тып дарогі, напр. У штаце Колёрадо было дакангна 155 спробаў тэхнічна-лябараторчых, 94 з бітым каменьнем і 236 цыліндраў з рожнымі гатункамі цэменту.

У той час, як 10 гадоў назад будова 1-эй мілі гэткай дарогі цягнулася месяц, цяпер вялізарная машына „tifer" выкладае 1,500 крокаў дарогі у працягу 10 гадзінаў! Пры гэтай машыне ашчаднасьць на кожным кроку складае 6 даляраў. Цяпер ужо уся Амэркка пакрыта сеткаю гэткіх бэтона-асфальтавых сошаў, асьветленых на усёй пространі электрычным сьвятлом. Усю пространь між Атлянтыцкім і Вялікім Акіянам у 4,000 кілямэтраў можна праехаць на аўтамабілі па гэткай сошы пры электрычным асьвятленьні.

Калі да гэткага удасканаленьня дойдзена на правінцыі, дык ці можна сабе выбразіць, да якой вышыні тэхнікі дойдзена у гарадох! Гарады перапоўнены аўтамабілямі. Напрыклад Нью-Ёрк з 9 міл. жыхароў мае каля 2 міл. аўтамабіляў. У пэўныя гадзіны дня бывае гэткае скапленьне аўтамабіляў на некаторых вуліцах, што літэральна затрымліваецца ўсялякі рух.

Цяпер найбольшы клопат, як урэгуляваць вулічны аўтамабільны рух. У некаторых гарадох пачалі будаваць спэцыяльныя езьдні павышшне 1-2 паверху для аўтамабіляў. Гэткая езьня ужо выбудавана у Нью-Ерсэй на пространі 15 кілёмэтраў. Новая дарога прапушчае ў год 20 міл. аўтамабіляў у адзін бок і утрыманьне яе каштуе 5 міл. даляраў за мілю ў год.

Але найвялікшым чынам у аблягчэньні камунікацыі зьяўляецца будова тунэлю пад р. Грудзонам у Нью-Ёрку. Будова яго абыйшлася ў 100 міл. даляраў. Але ашчаднасьць у руху вялізарная, бо заместа аб'яжджаць акружным шляхам па мастох, можна проста праяжджаць праз тунэль з аднаго берагу на другі. Ашчаднасьць складае 20 мільёнаў аўта-гадзінаў ці каля 40 міл. даляраў для пасажырскага руху і 750 міл. дал. для таварнага.

Гэткі шалёны ўзрост аўтамабілізму акрамя адпаведных шляхоў патрабуе яшчэ і гаражоў — мейсца для схову аўтамабіляў. І на гэтую галіну прамысловасьці амэрыканцы не шкадуюць грошай. Да 1927 г. на гэтую тэму было патрачана 2 мільярды дал., а у бягучым годзе каля 5 мільярдаў!!!

Найбольшыя гаражы ёсьць у найвялікшых местах, як Нью-Ёрк, Вашынгтон, Філядэльфія, Чыкаго, Бостон, Буфало... Гаражоў, у якіх можа зьмясьціцца больш 100 аўтамабіляў, ёсьць у Амэрыцы 60,000. Але гэта яшчэ мала і ня можа здавольніць патрэбы-

Каб мець сабе выбражэньне аб гэтых будынках, укажу на адзін з гаражоў Нью-Ёрку, як верх тэхнікі. Гэта „небаскроб" у 24 паверхі. Аўтамабілі падаюцца на верхнія паверхі пры помачы электрычных ліф-

таў і абслугоўваюцца ўласнаю абслугаю. Здаў у пэўнае гадзіны уваходу і затым прыходзіш і атрымліваеш вычышчаны у вызначану гадзіну. Плата за схоў не вялікая.

На гэтых некалькіх прыкладах я даткнуўся толькі аднаго боку амэрыканскае тэхнікі, ласьне аўтамабільнае і таго, што в гэтым беспасрэдна зьвязана. Але гэткі-ж пасьпех і ў галіне будоўлі дамоў, чугункі, мэталічных і іншых фабрык, параходзтва, кінаматаграфіі і г. д.

## Празрыстая сталь.

На выстаўцы мэталяў ў Бэрліне нямецкі вучоны д-р Мэллер прадэманстраваў надта цікавы вынік сваей доўгагадовае працы ў галіне вынаходчывасьці—празрыстую сталь, праз якую можна бачыць, як праз шкло. Два гады назад ён вынайшоў празрыстае золата. Гэтую сыстэму ён датасаваў і да сталі.

Дзеля гэтага сталь павінна быць вывальцавана, ў цененькія пласткі, якіх грубасьць складае некалькі міліёнавых частак мілімэтра і тады сталь будзе празрыстая, як шкло і праз яе праменьні праходзяць як праз шкло. Грубасьць гэткае бляшкі зьмяраецца вагаю, бо вядомымі дагэтуль спосабамі немагчыма. Картка гэткае празрыстае сталі ёсьць чулая для самага слабага дзьмуху ветру. Гэтую сталь пачнуць ужываць на мэмбраны для розных музычных інструмэнтаў, фанографаў, тэлефонаў,, прамаўляючых кінавых фільмаў і г. д. Акрамя таго гэта празрыстая сталь паслужыць навуковаму сьвету для далейшых вынаходкаў.

# Усячына.

## Некалькі вымоўных лічбаў.

Паводле статыстычных даных за 1927 г. праца ў Польшчы аплачваецца у наступным відзе: з 2,504,000 нанятых працаўнікоў каля 1½ мільёна атрымлівае менш 150 зл. і каля 350,000 больш 300 зл. у месяц. Да першае катэгорыі трэба далічыць яшчэ 1,642,000 сельска — гаспадарчых працаўнікоў.

Калі-ж мы падзелім насельніцтва на групы па разьмеру падаткаў, якія плацяць, дык атрымаем наступныя лічбы;

Менш 150 зл. у месяц зарабляюць 3,352,008 чал., ад 150 да 300 зл. — 240,000, ад 300 і больш — 140, 000.

Параўнаньне лічбаў за 1926 і 1927 г. паказвае, што лік асобаў,зарабляючых ад 150 да 300 зл., паволі зьменшаецца, а атрымліваючых больш 300 зл. павялічваецца.

Наагул трэба сказаць, што сярэдні заработак у Польшчы значна ніэшы, чым на Заходзе Эўропы, не гаворачы аб Англіі, Амэрыцы і інных. Сярэдні заработак польскага работніка і гэтак званае дробнае буржуазыі значна ніжэй мінімуму, патрэбнага для пражыцьця. Дзякуючы гэтаму і істнуе унутраны гаспадарчы крызыс, бо ці можа быць мова аб належным патрабленьні унутранага рынку.

## Сем месяцаў пад пагрозаю сьмяротнае казьні.

Апэляцыйны суд у Любліне разглядаў справу асуджанага на сьмерць Луцкім акружным судом нейкага Людвіка Грыгаровіча з Уладзіміру—Валынскага за забойства маткі. Апэляцыйны суд зусім унявініў Грыгаровіча, які ад красавіка да гэтага часу у Луцкім астрозе пад сталаю пагрозаю выкананьня сьмяротнае казьні.

# Куток жартаў і сьмеху.

### Практычны хлапец.

— Сынок, кім ты хочаш быць, як вырасьцеш?— пытаецца матка.

— Камінарам, бо ня трэба будзе мыцца..

### Лякарская парада.

— Хто ня можа спаць уночы, няхай спрабуе ўдзень. Шмат нашых урадоўцаў сьпяць найлепш удзень і на'т у канцэлярыях.

### Уцешыў...

— Я жанюся на прышлым тыдні, толькі ня ведаю, ці добра раблю?

— Э, нічога, прызвычаішся. Няпрыемна будзе толькі першыя месяцы.

### Добрая гаспадыня.

— Ці твая жонка умее гатаваць?

— Гатаваць то ўмее, толькі я не магу есьці.

### Падчас эпідэміі.

— Ці пані застрахавалася на выпадак эпідэміі?

— А як-жа,

— Якім спосабам?

— Угаварыла мужа, каб напісаў завяшчаньне,

### Слабы аргумант.

— А як я шчасьлівая! Мікола мяне любіць ад усяго сэрца, на'т сказаў, што я даражэй яго жыцьця

— Гм, так а учора мне гаварыў, што яго жыцьцё ня варта ні гроша.

# Біржа.

Даляр — 8,90
Залаты руб. — 4,64
Сярэбраны руб. 3,03
Чырвонец 15.

# Беларусы! Складайце да 31 сьнежня дэклярацыі на Беларускую Школу!

**Ня зьнішчайце газэты! Прачытаўшы перадайце суседу!**

Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. друк. ім. Фр Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.